**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№48 (712) 28 лістапада 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае






*Фота Ул. Скрабатуна.*

Глыбокае. Канец лістапада.



Падаць абвестку ў «Вольнае Глыбокае» можна не выходзячы з дому, патэлефанаваўшы на ________ №166

### Віцебскі раён

# Разборкі адкладваюцца ?

■ Станіслаў Раманчук

**Зусім невыпадкова кіраўнік Беларусі даў даручэнні Дзяржкантролю стварыць камісію і найбольш дэталёва праверыць працэс мадэрнізацыі на ААТ “Віцебскдрэў”.**

Там таксама даўно павінны былі выпускаць высакаякасныя драўнінна-валакністыя пліты МДФ і ХДФ міжнароднага ўзроўню. Аднак па розных прычынах распрацаваны бізнес-план не выконваўся і тэрміны здачы сучаснай вытворчасці зрываліся некалькі разоў. Злыя языкі пачалі гаварыць, што лепш бы А. Лукашэнка спачатку наведаўся сюды, а не ў Барысаў і маглі б адбыцца тут адстаўкі на абласным узроўні, а не ў Мінскай вобласці. Пасля гэтага на прадпрыемстве пачалі неверагодными раней тэмпамі “наводзіць парадак” і ў пачатку лістапада гатоўнасць аб’екта дасягнула 94 %. Акрамя навядзення ідэальнай чысціні на ўсёй тэрыторыі і ў цэхах пачалі і пуска-наладачныя работы. Найперш запусцілі ў эксплуатацыю пад жорсткім кантролем аблвыканкама і супрацоўнікаў дзяржкантролю магутную энергатычную ўстаноўку, якая забяспечвае неабходнай энергіяй усе падраздзяленні. Аднак не ўсе складанасці ўдалося пераадолець, паколькі з-за зацягвання тэрмінаў перасначэння “Віцебскдрэва” вырас кошт праектных і іншых работ. У канцы восені ўбачылі свет першыя партыі прадукцыі, якая выпускалася раней, і навінка – ламініраваныя напольныя пакрыцці. Пры гэтым на душы многіх упраўленцаў неспакойна, бо і пасля здачы аб’екта коштам амаль 96 млн. еўра застанецца шэраг праблем. Па-першае, могуць многіх пакараць як за зацягванне работ, так і за недахоп кваліфікаванага персаналу і адсутнасць дагавораў на рэалізацыю прадукцыі нават унутры Мытнага саюза.

### Ушацкі раён

# Курыць тут не модна

■ Чэслаў Якубовіч

**Якія толькі мерапрыемствы, спецыяльныя акцыі не праводзяцца па ўсім свеце, каб людзі менеі курылі.**

Пазбавіцца ад вельмі шкоднай для здароўя звычкі імкнуцца сярод моладзі кампаніяй “курыць не модна”, у шэрагу айчынных крамаў сталі абменьваць цыгарэты на цукеркі. Не кожны ведае, што і Беларусь сёння сярод сусветных антылідараў па ўзроўні курэння. У нас кураць ужо амаль трэць жанчын, што вельмі сумна, і каля 65 % мужчынскага насельніцтва. Між тым арыгінальны і незвычайны метад барацьбы з гэтым злом прыдумалі ва Ушацкім раёне. Там адзін з супрацоўнікаў раённай газеты “Патрыёт” заўважыў на двары адной з арганізацый своеасаблівы перфоманс супраць курэння. Ён нават сфатаграваў драўляную альтанку, якую прызначылі месцам для курэння рабочых. Потым гэты здымак з’явіўся на старонках газеты і неўзабаве навіна стала адной з арыгінальных тэм на прасторах Інтэрнэту напярэдадні Міжнароднага дня адмовы ад курэння. У гэтай арганізацыі проста размясцілі на лавачках адзін на адным адразу пяць нядаўна зробленых драўляных трун. Міжволі любому курцу нейк няёмка становіцца прысесці побач і зацягнуцца дымком і крыху ў падсвядомасці зразумець, што курэнне скарачае істотна чалавечае жыццё. Мясцовыя газетчыкі папрасілі сваіх чытачоў прысылаць дасціпныя радкі да рэдкага фотаздымка. З’явілася ў выданні і вельмі трапная частушка на гэту тэму: “Адна цяслярская брыгада курыла значна больш, чым нада… у цэх не вярнуліся курцы, бо аддалі яны канцы”. Можа і не вельмі мастацкі слоган, але па-сутнасці ўсё правільна, паколькі на другім месцы ў свеце сярод прычын смерці стаіць менавіта курэнне, але пра гэта большасць з нас не задумваецца.

### Пастаўскі раён

# Звярыны інстынкт

■ Кастусь Александровіч

**Практычна ва ўсіх кутках краіны застаюцца цяпер актуальнымі праблемы сямейна-бытавых злачынстваў.** Вось і ў Пастаўскім раёне, дзе з пачатку года амаль на 10 % зменшылася колькасць крымінальных злачынстваў, прыйшлося распачаць сёлета 16 спраў па фактах пагрозы забойствам, прычынення цяжкіх і менш цяжкіх цялесных пашкоджанняў, а таксама катаванняў і збіцця ў сферы сямейна-бытавых адносін. Што дзіўна, губляюць чалавечае аблічча і ператвараюцца ў звяроў нават блізкія людзі. Да іх можна аднесці і 44-гадовага жыхара вёскі Груздава, які неаднаразова сёлета добра “выхоўваў кулаком” сваю сужыцельку, пакуль яго агрэсіўнымі паводзінамі не зацікавіўся райаддзел Следчага камітэта. Яго супрацоўнікі таксама правялі расследванне высвятлення адносін паміж жыхаром раёна і братам ягонай жонкі. На падпітку адзін з іх абразіў сваяка, і ў выніку больш моцны мужчына качаргой пераламаў слабейшаму костку голені, за што пойдзе пад суд. Яшчэ адзін вясковец сёлета сістэматычна збіваў сваю сужыцельку, аднак жанчына маўчала і нікому пра свае беды не гаварыла. Завяршылася гісторыя трагічна: гора-муж на падпітку стаў зноў шалёным і ў ярасці 4 разы ўдарыў сваю каханку металічнай трубой. Гэтага яму паказалася мала, і душагуб яшчэ тройчы ўдарыў тапаром па галаве пацярпелай, якая памерла на месцы здарэння.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 28.11.13 | | | | Пятніца 29.11.13 | | | | Субота 30.11.13 | | | | Нядзеля 01.12.13 | | | | Пнд.02.12.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +3 | +6 | +4 | +3 | +1 | +1 | 0 | 0 | +1 | +1 | +1 | +2 | +1 | +2 | +2 | +2 | +2 | 0 | 0 |
| Ціск | 740 | 736 | 734 | 736 | 737 | 739 | 740 | 741 | 741 | 740 | 740 | 741 | 742 | 741 | 740 | 736 | 735 | 737 | 739 |
| Вільготнасць | 93 | 94 | 88 | 85 | 83 | 87 | 71 | 91 | 97 | 96 | 95 | 91 | 89 | 95 | 91 | 91 | 86 | 91 | 89 |
| Вецер м/сек | 9 З | 8 З | 9 Пн-З | 6 З | 6 З | 6 Пн-З | 7 Пн-З | 1 З | 3 Пд-З | 4 Пд | 4 Пд-З | 6 З | 6 З | 6 З | 5 Пд-З | 8 Пд-З | 7 З | 6 З | 7 Пн-З |

# Аб самым надзённым

## СЁЛЕТА РЭЗКА ПАГОРШЫЎСЯ ПЛАЦЁЖНЫ БАЛАНС КРАІНЫ, УСЁ БОЛЬШ АЙЧЫННЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ ПРАЦУЮЦЬ НЕЭФЕКТЫЎНА

■ Аляксандр Цішкевіч

**У нас нацэльваюць вытворцаў найперш на валавыя паказчыкі. З такімі падыходамі нас будзе жыццё трымаць у напружанні і надалей можа быць яшчэ складаней і нават увядзенне характарыстак з папярэдняга месца працы не выратуе ад правалу цяперашнюю пяцігодку.**

Да нядаўняга часу ў нас было модна крытыкаваць сваіх бліжэйшых суседзяў, якія кінуліся з галавой у рынкавыя рэформы і быццам бы загубілі сваю прамысловасць. Нават кіраўнік дзяржавы стаў заклікаць суайчыннікаў “не маліцца ўвесь час на Расію”, хоць болей мільёна беларусаў едуць туды штогод працаваць і зарабляюць на жыццё значна больш, чым у сябе дома. Аднак на фінішы года стала відавочна, што сёлета ў нас адны правалы і праліки, што аднак крызіс, як тлумачаць, справакавалі праблемы ў Еўропе і крыху меней у Амерыцы і Азіі.

З іншага боку радавы абывацель атрымаў порцыю зноў гучных публічных разборак і тэрміновых звальненняў з трэскам кіраўнікоў абласцей, вайскоўцаў з вялікімі зоркамі, намесніка генпракурора і ўпраўленцаў ніжэйшых рангаў. Таксама пачаліся паўсюдна кантрольныя праверкі тэрыторый заводаў і фабрык ад сталіцы да глыбінкі розных падкамісій з удзелам пракуратуры, санслужб, пажарнікаў і іншых дзяржслужб. Іх задача навесці парадак на падведамасных тэрыторыях і адначасова паскорыць працэс мадэрнізацыі, без якой “сложно разворачиваться” на маршы.

Праўда, сёлета гучаць больш пахавальныя мелодыі, паколькі, як пацвердзіла ўрадавая прэс-служба, за 9 месяцаў не былі выкананы 7 з 9 важнейшых паказчыкаў параметраў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2013 год. Але ж у пачатку года на ўсіх узроўнях пераконвалі тых, хто сумняваўся, што прэзідэнцкае заданне аб росце ВУП на 8,5 % павінна быць выканана. Яшчэ раней нам абяцалі ва ўрадзе, што ў 2015 годзе Беларусь выйдзе і на станоўчае сальда свайго знешняга гандлю. А цяпер высвятляецца, што гэта быў падман, ды яшчэ які.

Па дадзеных Белстата, за 8 месяцаў сёлета беларускі экспарт тавараў скараціўся на 22,4 %, альбо з 28,43 да 25,65 млрд. долараў. І пакацілася кола эканамічных праблем з гары, а народ у паніцы, бо яму настойліва рэкамендуюць чыноўнікі вышэйшага рангу не “шастаць па абменніках”. Акрамя гэтага невядома, што будзе далей. Хутчэй усяго нас чакаюць няпростыя часы, бо фінансісты папярэджваюць, што праект рэспубліканскага бюджэта на 2014 год утрымлівае шмат рызыкі, што ён не будзе можа выкананы і не ўдасца ўтрымаць гадавую інфляцыю на ўзроўні 11 %, а курс долара на адзнацы 9800 рублёў.

Справа ў тым, што дэвальвацыя нацвалюты не знятая з парадку дня, калі не ўдасца знайсці дадатковыя знешнія крыніцы прыцягнення валюты. Хто сочыць за сітуацыяй, адразу зразумеў для чаго беларускі лідар наведваў Туркменістан і Азербайджан з іх значнымі запасамі нафтадолараў. У рэальным жыцці, каб застрахавацца ад падзення жыццёвага ўзроўню, беларусы і ў кастрычніку працягвалі актыўна скупляць валюту. У абменніках у мінулым месяцы людзі купілі яе амаль 1 млрд. долараў, а за 10 месяцаў яе набылі на 1,668 мільярда USD болей, чым яе прадалі.

Вось якія дэвальвацыйныя апасенні насельніцтва, навучанага горкім вопытам абвалаў 2009 і 2011 гадоў. Напружаная сітуацыя на валютным рынку тлумачыцца няпростым станам нашай народнай гаспадаркі, спадам у прамысловасці і падзеннем канкурэнтназдольнасці айчынных тавараў. У слоган “Купляйце беларускае!”, напэўна, вераць толькі самыя наіўныя. Да прыкладу, зараз беларусы купляюць толькі 19,8 % беларускіх тэлевізараў маркі “Гарызонт” і “Віцязь”, а айчынных радыёпрыёмных апаратаў толькі 1 %. На розничным рынку спажывецкіх тавараў доля прададзеных беларускіх мінскіх веласіпедаў “Матавела” ўпала да 21,5 %. Цікава, што гэты сталічны матавеламзавод ужо прададзены і прыватызаваны.

Без гэтага кроку ён бы раней поўнасцю збанкрутаваў і быў закрыты, каб не з’явіўся інвестар. Атрымліваецца, што пакуль мы, як той Ілля Мурамец ляжалі на печы і нават ганарыліся, што не робім эканамічныя і палітычныя рэформы, не адмаўляемся ад савецкіх тэхналогій, а суседзі разганялі калгасы, закрывалі свае нерэнтабельныя і не патрэбныя болей заводы. Беларускае кіраўніцтва крытыкавала падыходы тых жа літоўцаў, аднак нашы суседзі ўжо стварылі ў сябе новую прамысловасць і яе ВУП на душу насельніцтва на 25,5 % вышэй, чым у нас.

Праўда і тое, што літоўцы па пакупніцкай здольнасці насельніцтва абагналі беларусаў ужо на 38 %, хоць і маюць значна больш узровень беспрацоўя і вымушанай эміграцыі. Пры гэтым, трэба ведаць, нашы суседзі купляюць расійскі газ па 500 долараў, а не па 165, як мы. І што з таго, што беларусы маюць значна больш розных прадпрыемстваў? Сярмяжная праўда ў тым, што літоўскія прыватныя фірмы і канцэрны значна больш эфектыўныя за нашы, працуюць з большым прыбыткам. А ў нас нацэльваюць вытворцаў найперш на валавыя паказчыкі. З такімі падыходамі нас будзе жыццё трымаць у напружанні і надалей можа быць яшчэ складаней і нават увядзенне характарыстак з папярэдняга месца працы не выратуе ад правалу цяперашнюю пяцігодку.

## Дзень за днём

**На працягу бліжэйшага паўгода А. Лукашэнка загадаў перавесці на кантрактную форму найму ўсіх працуючых у Беларусі, будзе зменены і парадак вырашэння працоўных спрэчак, бо наперадзе няпростыя часы. У краіне сёлета не выканалі нават 7 з 9 важнейшых параметраў сацыяльна-эканамічнага развіцця, пад пагрозай апынулася гадавое заданне па ўзвядзенні жылля, беларусаў чакае падзенне ўзроўню жыцця. Ва ўрадзе Беларусі задумалі ўвесці і падатак на дармаедаў, Вярхоўны суд прапанаваў садзіць даўжнікоў на 15 сутак. Стаўкі дзяржпошліны на допуск да дарожнага руху магчымы ў памеры ад 1 да 25 базавых – у залежнасці ад масы аўтамабіляў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** У разбураным напалову другім па значэнні горадзе краіны Алеппа пачаліся вельмі жорсткія баі паміж байцамі-ісламістамі радыкальных сунітаў і радыкальных шытаў.

**Францыя.** Услед за ЗША Еўрапейскае агенцтва авіяцыйнай бяспекі дазволіла пасажырам карыстацца смартфонамі, планшэтамі, эл. кнігамі на ўсіх этапах палёту самалётаў.

**Егіпет.** Улады краіны адмянілі рэжым надзвычайнага становішча і надзвычайную гадзіну, якія дзейнічалі ў буйнейшых гарадах на працягу 3-х месяцаў, але сітуацыя трывожная.

**Украіна.** Калі цяперашняя ўлада не падпіша пагадненне аб асацыяцыі з Еўрасаюзам, як пргразіў лідар партыі УДАР Віталь Клічко, то гэта зробіць новы ўкраінскі прэзідэнт.

**Казахстан.** Улады краіны выставілі Расіі рахунак за шкоду экалогіі пасля чарговай аварыі і падзення летам паблізу "Байканура" ракеты-носьбіта "Пратон-М" з ядавітымі рэчывамі.

**Расія.** Спецыялісты ўстанавілі, што прычынай крушэння пасажырскага самалёта Boeinq 737 у Казані маглі стаць 5 фактараў: памылкі пілотаў, няякаснае паліва да ўмоў надвор'я.

**Венесуэла.** Па загадзе прэзідэнта-папуліста, экс-шафёра Н. Мадура арыштавалі больш 100 "буржуа" за быццам спекуляцыю цэнамі на электроніку і іншыя бытавыя тавары.

**Польшча.** Польскі пасол у РБ Лешак Шарыпка заявіў, што ўлады Беларусі 3 гады не ўводзяць пагадненне аб малым прыдарожным руху, не рэагуюць на ўсе прапановы.

**Японія.** З дапамогай робата кампаніі аператару АЭС "Фукусіма-1" удалося выявіць месцы, адкуль адбывалася ўцечка радыёактыўнай вады з першага рэактара станцыі.

**Карэя.** Краіна дамовілася з Расіяй аб увядзенні з 1 студзеня 2014 года пагаднення аб узаемнай адмене візавага рэжыму, ён дазваляе без віз ездзіць туды да 60 дзён штогод.

**Расія.** На касмадроме Плесецк у Архангельскай вобласці загінулі падчас правядзення рэгламентных работ два афіцэры ад атраўлення ракетным палівам, 3 трапілі ў шпіталь.

**ЗША.** На месцы знішчаных ісламістамі двух вежаў-блізнят адкрыўся першы 72-павярховы шыкоўны офісны хмарачос вышынёй 298 метраў і плошчай 214 квадратных метраў.

**Камбоджа.** Па ордэру пракуратуры Расіі паліцыя арыштавала беглага бізнесмена С. Палонскага, яго падазраюць у крадзяжы 6 мільярдаў рублёў у забудоўшчыкаў горада Масквы.

**Швейцарыя.** На аўкцыёне Sotheby's за рэкордную ў свеце суму 83 мільёны долараў удалося прадаць ружовы брыльянт з прыватнай калекцыі вагой 59,6 карата невядомаму пакупніку.

**Францыя.** Прэзідэнт УЕФА Мішэль Плаціні пацвердзіў, што сказаў У. Пуціну аб поўнай немэтазгоднасці праводзіць аб'яднаны чэмпіянат Расіі і Украіны па футболе.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Навая кампанія па выбарах прэзідэнта, як паведаміла глава ЦВК Беларусі Л. Ярмошына, пачнецца ў жніўні 2015 года, самі выбары пройдуць не пазней 20 лістапада.

**Гродна.** Самы развіты рэгіён краіны пакінуў 52-гадовы доктар навук Сямён Шапіра, якому даручылі ўзначаліць Мінскую вобласць, сюды прыслалі магілёўца У. Краўцова.

**Бараўляны.** 28-гадовы мясцовы жыхар стаў першым у Беларусі, у каго суд канфіскаваў яго аўтамабіль FIAT, даў 39 мільёнаў рублёў штрафу і яшчэ 1,6 гады папраўчых работ.

**Мінск.** Каб без крызісу дажыць да выбараў 2015 года, як заявіў палітолаг Д. Мельянцоў, і нічога не мяняць у краіне, уладам Беларусі трэба недзе адшукаць 9 мільярдаў долараў.

**Мазыр.** Урад Беларусі рашыўся з-за складанай сітуацыі з валютай выставіць на продаж дзяржаўны пакет ( 42,76 % ) акцый мясцовага нафтаперапрацоўчага завода.

**Барысаў.** На аўтамабільным заводзе "БелДжы" у снежні выпусцяць ужо 800 кітайскіх легкавушак двух мадэляў, з новага года іх выпуск дасягне адной тысячы ў месяц і тут яшчэ наладзяць і выпуск хэтчбекаў.

**Драгічын.** Чацвёра маладых вясковых хлопцаў і дзяўчат ва ўзросце 17-22 гады трагічна загінулі ў ДТЗ каля 2-х гадзін ночы, калі на Аўдзі-100 урэзаліся ў фуру на трасе М10.

**Мінск.** Да канца года большасць работнікаў МАЗа перавялі на чатырохдзённы графік працы з-за слабай рэалізацыі аўтамабіляў і аўтобусаў, недахопу камплектуючых.

**Бераставіца.** Самы вялікі на Гродзеншчыне статак фермера Наталлі Церах з 300 дойных коз скараціўся напалову з-за невядомай хваробы, якая знішчае хворых жывёлін.

**Навагрудак.** Сінод Беларускай праваслаўнай царквы пазбавіў сану святара іерэя У. Каляду за парушэнні апостальскіх правілаў веры, распусту, парушэнні клятвы або крадзяжы.

**Мінск.** Намеснік міністра гандлю РБ В. Драгун заявіў, што неўзабаве не стане паўсюдна "сацыяльных" цэн, за тавары і паслугі людзі пачнуць плаціць столькі, колькі каштуюць.

**Брэст.** Упершыню 31-гадовы гараджанін перадаў удаве сваю прэмію ДАІ, атрыманую за дапамогу ў затрыманні п'янага ліхача, які на тратуары збіў насмерць яе мужа пешахода.

**Рагачоў.** Да 75-годдзя мясцовага МКК ля прадпрыемства адкрылі ўнікальны, першы ў свеце помнік вышынёй 4 метры, каляровую копію знакамітай банкі згушчонкі.

**Мінск.** За няпоўных 3 тыдні міліцыя затрымала ў Беларусі ўжо 137 вадзіцеляў зноў за паўторную язду ў нецвярозым стане, аднак п'яных за рулём становіцца крыху меней.

**Барысаў.** ФК БАТЭ у 10 раз стаў датэрмінова чэмпіёнам Беларусі па футболе і прапанаваў урачыста адкрыць свой новы стадыён еўрапейскага ўзроўню ў наступным годзе.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З-за афрыканскай чумы свіней іх пагалоўе ў вобласці скарацілася на 16,9 % , амаль на 91 тысячу галоў, пацярпелі комплексы Сенненскага, Віцебскага - усяго 5 раёнаў.

**Полацк.** Спецыялісты ААТ "Шкловалакно" распрацавалі і пачалі выпуск спецыяльных негаручых пакрыццяў для цепла і гукаізаляцыі аўтамабільных рухавікоў і акумулятараў.

**Орша.** Суд раёна асудзіў на 1 год турмы з адтэрміноўкай прыгавору за прыпіскі дырэктара сельгаспрадпрыемства "Межава", супраць яго распачалі новую справу за злоўжыванні.

**Бешанковічы.** Мясцовае прадпрыемства "Віпратэх" паставіла буйную партыю самаходных цялежак і прычэпаў для грузаў на будпляцоўку Беларускай АЭС у Астраўцы.

**Віцебск.** Пасол Карэі ў Беларусі Ян Жунг Мо атрымаў прапанову ўключэння тэлезавода "Віцязь", завода "Эвістар" і іншых у сумесны з карэйцамі радыёэлектронны холдынг.

**Ушачы.** З-за слабага попыту новы сучасны цэх па выпуску мінеральнай вады "Вечалле" і безалкагольных напояў стаў прастойваць, працаваць толькі 2 дні на тыдзень у адну змену.

**Наваполацк.** Мясцовы біямехзавод бытавых адходаў пачаў адгрузку на экспарт ПЭТ-бутэлек, пласціка, шкла і металу, атрыманых са смецця і другаснай сыравіны.

**Глыбокае.** Да радасці жыхароў аднаго з мікрараёнаў прыватнай забудовы за сродкі раённага бюджэту заасфальтавалі і здалі ў эксплуатацыю да халадоў вуліцу Жукава.

**Гарадок.** У сталіцы прадстаячых рэспубліканскіх "Дажынак-2014" вырашылі ўстанавіць у гарадскім скверы скульптурную кампазіцыю па матывах паэмы "Тарас на Парнасе".

**Мёры.** Раніцай у моцны туман на дарозе ля вёскі Шарагі сутыкнуліся лоб у лоб УАЗік старшыні калгаса з аўтамабілем "хуткай дапамогі", у бальніцу трапіла ранены фельдшар.

**Шаркоўшчына.** Абласное УП "Фармацыя" адкрыла ў райцэнтры сваю трэцюю па ліку і шостую ў раёне аптэку 3-й катэгорыі ў памяшканні стаматалагічнай паліклінікі.

**Талачын.** У дзяржаўную інвестыцыйную праграму "Рэканструкцыя з рэстаўрацыяй помніка архітэктуры XVIII стагоддзя" ўключылі мясцовы жаночы св. Пакроўскі кляштар.

**Браслаў.** Кіраўніцтва раёна з нагоды 25-годдзя мясцовага гісторыка-краязнаўчага музея перадала ў падарунак калектыву камплект сучаснага выставачнага абсталявання.

**Полацк.** У праграму будучага чэмпіянату свету-2014 па хакеі для яго гасцей і ўдзельнікаў уключылі наведванне самага старажытнага горада Беларусі і яго шматлікіх музеяў.

**Бешанковічы.** Жыхарка райцэнтра ўстроіла пажар у доме суседа, калі ён быў днём на рабоце, але потым сама выклікала пажарных, па факце здарэння пачалося следства.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Тых, хто здае жыллё, пабудаванае па льготным крэдыце, будуць штрафаваць



■ БелаПАН

**Дэпутаты палаты прадстаўнікоў на пасяджэнні 22 лістапада прынялі ў першым чытанні папраўкі ў Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях і Працэсуальна-выканаўчы кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях.**

Законапраект устанаўлівае адміністрацыйную адказнасць грамадзян за прадастаўленне жылога памяшкання, пабудаванага ці набытага з прыцягненнем ільготнага крэдыту, ці яго часткі ў арэнду да поўнага пагашэння гэтага крэдыту без дазволу адпаведнага мясцовага выканаўчага і распарадчага органа.

Як паведаміла першы намеснік міністра архітэктуры і будаўніцтва Ірына Архіпава, за ажыццяўленне адпаведных дзеянняў прадугледжваецца спагнанне штрафу ў суме ад 4 да 30 базавых велічынь, за паўторнае правапарушэнне на працягу года — ад 30 да 50 базавых велічынь.

Нагадаем, 1 чэрвеня гэтага года набыў моц указ прэзідэнта №246, згодна з якім забараняецца прадастаўленне грамадзянамі ў арэнду жылля, пабудаванага з прыцягненнем ільготнага крэдыту, да поўнага яго пагашэння, за выключэннем выпадкаў, калі здача ўнаймы гэтых памяшканняў дазволена мясцовымі органамі ўлады.

Мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы сумесна з МУС абавязаны забяспечваць сістэматычны кантроль за выкананнем устаноўленага парадку прадастаўлення ўнаймы жылых памяшканняў, пабудаваных з прыцягненнем ільготнага крэдыту. У выпадку парушэнняў устаноўленага парадку ўказам прадугледжваецца адміністрацыйная адказнасць для грамадзян (штраф ад 4 да 30 базавых велічынь) і вызначаны ўпаўнаважаныя службовыя асобы дзяржаўных органаў, якія маюць правa на складанне пратаколаў па такім адміністрацыйным правапарушэнні.

# Падаражалі хлеб, малако, курынае мяса і яйкі

**У Беларусі з 23 лістапада павышаны цэны на некаторыя віды хлеба і хлебабулачных вырабаў, малочную прадукцыю, курынае мяса і яйкі.**

Адпаведная пастанова Міністэрства эканомікі № 86 ад 18 лістапада 2013 года ўжо ўступіла ў сілу.

Па прапанове Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання на 10% павышаны гранічныя максімальныя адпускныя цэны на хлеб жытні і жытна — пшанічны, булачныя вырабы з пшанічнай мукі з утрыманнем па рэцэптуры цукру і тлушчаў у суме не вышэй за 14 %. Гэта так званыя «сацыяльныя гатункі» недарагіх хлебабулачных вырабаў. Мяса куранят-бройлераў і яйкі курыныя таксама падаражалі на 10%.

Гранічныя максімальныя адпускныя цэны на малочныя прадукты выраслі ў залежнасці ад іх тлустасці. Акрамя таго, на іх прадугледжана падвойнае падаражанне — у лістападзе і снежні.

# Напішыце мне ў Парыж,

■ Уладзімір Скрабатун

**У сярэдзіне XIX стагоддзя маёнтак Мнюта графа Эдварда Рамуальда Берастоўскага (Бжастоўскага) складаўся з вёсак Вялец Вялікі (65 душ), Савёнкі (53 душы), Сукліна (28 душ), Ляўкова (2 душы). Акрамя гэтага, Берастоўскаму належаў маёнтак Катлоўшчына ў Троцкім павеце Віленскай губерні, фальварак Горнава ў Барысаўскім павеце Мінскай губерні, а таксама фальваркі Слабадзінец і Пераброд у Віцебскай губерні.**

**У 1865 годзе Эдвард Берастоўскі быў унесены ў спіс дваран Віцебскай губерні. Паводле Спісу зямельных уласнікаў, да маёнтка Мнюта належала 1355 дзесяцін зямлі, з якіх было 422 дзесяціны ворыўнай зямлі, 269 дзесяцін лесу, а астатнюю частку складалі лугі і пашы.**

**Граф быў жанаты на Рахіль з дому Дэспат-Зяновічаў. У гэтай сям'і было трое дзяцей. У 1861 годзе нарадзіўся сын Мар'ян Вінцэнт, у 1863-м — дачка Габрыэла Марыя і ў 1867 годзе — яшчэ адна дачка Марыя Ядвіга. Мар'ян Вінцэнт быў жанаты з Марыяй Тэрэзай з роду Жыжнеўскіх. У 1901 годзе ў іх нарадзіўся сын Уладзіслаў, будучы гаспадар маёнтка Мнюта. Яго асоба і з'яўляецца тэмай нашага апавядання.**



**Шепелева. «Шумны» мост графа Берастоўскага над Панамскім каналам.** *Фота Ул. Скрабатуна, 02.10.2006 г.*

## Панама на Мнюце

Гадоў восем таму, разглядаючы польскую тапаграфічную мапу 1930-х гг, заўважыў цікавае паселішча – Двор Панама. Адразу ўзнікла асацыяцыя са славутым Панамскім каналам. Ды й, зрэшты, Двор Панама – на рацэ Мнюта. Адзначаны там і млын водны. Рэчышча перад ім раздвойваецца. Мабыць, адзін з рукавоў і ёсць мясцовы "Панамскі канал"?

Добрая нагода завітаць у Панаму, з той агаворкай, што на месцы Панамы сёння – вёска Шэпелева.

У пачатку кастрычніка 2006 года аўтар гэтых радкоў накіраваўся ў Шэпелева, дзе яшчэ заспеў у жывых Казіміра Казлоўскага (1921 г.нр.), млынара графа Уладзіслава Берастоўскага. Менавіта Берастоўскага – так прагучала прозвішча з вуснаў старажыла. Бо спрэч у гістарычных крыніцах прозвішча прадстаўнікоў гэтага роду падаецца ў польскамоўным варыянце – Бжастоўскі (Brzostowski).

З вокнаў дома гаспадара хаты адкрываўся відарыс на рэшткі паркавых прысадаў.

*– Да рэвалюцыі фальварак Шэпелі (Шэпелева) належаў бацьку Уладзіслава – Мар'яну Берастоўскаму,–* кажа Казімір Казлоўскі. *– Мой бацька Аркадзь апавядаў, што яго дом, які называлі пакоямі, стаяў амаль на тым месцы, дзе зараз і знаходзіцца наш дом. З вакна мы і цяпер бачым некалькі старых ліп ад прысадаў колішняга фальварка.*

*– Былі рэвалюцыйныя падзеі. Сялянскія хваляванні. Прыйшлі да графа ўзброеныя людзі. Выклікалі пана на перамовы. Аднак Мар'ян Берастоўскі перамовы вясці не жадаў. Людзі ўварваліся ў пакоі. Граф застрэліў у калідоры*

**Крыніца:** [1] Ігар Мельнікаў, "Новы час", 29.04.2013



**Казімір Казлоўскі, млынар графа Берастоўскага.** *Фота Ул. Скрабатуна, 02.10.2006 г.*

*аднаго з сялянаў. Затым і сам застрэліўся. У знак помсты сяляне спалілі панскі дом.*

*– Сын, Уладзіслаў Берастоўскі, яшчэ зусім малады, 1901-га года нараджэння — пайшоў у легіён помсціць за бацьку.*

Скончыліся ваенныя ліхалецці. Што потым?

*– Сын вярнуўся з легіёна і пачаў аднаўляць маёнтак Мнюта,–* працягвае Казімір Казлоўскі.

– А Шэпелева?– пытае аўтар гэтых радкоў.

*– Фальварак Шэпелі (Шепелева) не аднаўлялі. Але аб ім яшчэ і сёння нагадвае некалькі старых дрэў.*

– На карце 1930-х гг побач з Шэпелевам адзначаны Двор Панама. Чыё гэта было ўладанне?– задаю пытанне старажылу.

*– Уладзіслава Берастоўскага.*

– Гэта ён пабудаваў млын?

*– Ён. Трэба адзначыць, што ў будынку млына быў усталяваны і замежнай вытворчасці генератар, які прадукаваў электрычны ток. Было гэта дзесьці, каля 1935 года. Граф пабудаваў не толькі гідраэлектастанцыю. Яшчэ і масты праз раку Мнюту, адзін – у Панаме, другі – у маёнтку Мнюта. Абодва і зараз стаяць.*

– І усё ж: канал тут рылі?– звяртаюся з пытаннем да Казіміра Казлоўскага.

*– Рылі! Таму і Панамай завецца. Будынак млына ўзвялі на старым рэчышчы, а для скідвання залішніх паводкавых водаў прарылі адвадную канаву – метраў 200. Гэта і ёсць Панамскі канал. Над ім цяпер – 4-пралётны мост. Там – чатыры шлюзы. Перад мостам са шлюзамі калісь было даволі значнае вадасховішча. Яго тэрыторыя была ў дагледжаным стане: выкарчоўваліся хмызнякі і абкошваліся берагі, каб прадухіліць зарастанне мелкаводдзя чаротам і трыснягамі. Праз 200 метраў Панамскі канал ізноў злучаўся са старыцай. За дзесяцігоддзі паводкавыя воды зрабілі сваю справу – размылі і значна пашырылі рэчышча канала.*

*– У будынку млына быў усталяваны генератар замежнай вытворчасці. Гідраэлектастанцыя асвятляла маёнтак Панама і маёнтак Мнюта. Народ глядзеў на электрычную лямпачку як на дзіва. Млын прадукаваў крупу і муку высокай якасці. Я, юнаком, з 1937 года, яшчэ пару гадоў перад прыходам савецкай улады паспеў папрацаваць у графа млынаром.*

*У Панаме жыло чатыры работнікі, а ў Шэпелеве – пяць. Раз гэтыя работнікі графа жылі ў панскім двары, то іх народ, жартам, называў «дварняжкі».*

## Граф быў простым, як мужык!

– Як Вы ахарактарызуеце графа: пан быў добры альбо дрэнны?

*– У Плісе народ гараваў. Там пан быў благі. Не дазваляў сялянам пасвіць кароў на добрых пашах. Наш Берастоўскі быў простым, як мужык. Зойдзе ў дом, пасядзіць з намі за сталом, паразмаўляе і бульбіну з намі з'есць. Плаціў граф добра, народ не крыўдзіўся. Калі ў кагосьці была вялікая сям'я, то граф дазваляў мецъ і дзве кароўкі ды пасвіць на сваіх лугах.*

– А як пан размаўляў з вяскоўцамі? Па-польску?

*– Ды так, як мы цяпер з табой!*

– Значыць, па-беларуску.

*– Так.*

## Рыбная рака Мнюта

– Выхадцы з Вашых месцаў, жыхары Глыбокага, распавядалі, што калісьці Мнюта была паўнаводная рыбная рака.

*– Так. Гэта праўда. Стаяла на рацэ пяць ці шэсць млыноў: у Плісе, у Панаме, у Гарадцы, у Лужках... Вада стаяла высока. Нават лес па Мнюце, у даўнія часы, да сутокі з ракой Дзісной сплаўлялі. Вадзіўся галавень, ялец, язь і ўся іншая рыба нашых вадаёмаў. Было шмат вугра. Ён часта трапляў у лопасці турбін гідраэлектастанцыі і млына. Даставалі. Вугра ж у 1920-ыя гады яўрэі запусцілі ў возера Пліса, з якога выцякае рака Мнюта.*

## Млын графа стаў калгасным млыном

– У гады вайны млын працаваў?– задаю пытанне Казіміру Казлоўскаму.

*– Працаваў. Малолі муку. Партызаны, каб нашкодзіць акупантам, млын знішчылі.*

– А як было пасля вайны?

*– Пасля вайны ўсё аднавілі. І млын, і гідраэлектрастанцыю. Будынак быў падзелены сцяной на два аддзяленні: млына і гідраэлектрастанцыі. Для гідраэлектрастанцыі закупілі замежнае абсталяванне. Стаяла два генератары. Калгас жа, фактычна, пабудаваў новы 4-пралётны мост праз Мнюту. Тады старшынёй мясцовага калгасу быў Сяргей Пятровіч Слабуха. Гідраэлектрастанцыя асвятляла калгасныя будынкі і пяць бліжэйшых вёсак: Мнюта, Шэпелева, Вялец, Шчарбы і Тушына. Млын прадукаваў крупы і муку петляванку – вышэйшай якасці. У 1947 годзе я вярнуўся з войска і працаваў тут калгасным млынаром.*

## Арганізуйце ў маім маёнтку калгас
### Ліст у Савецкую Беларусь[1]

Здавалася б, гэтая гісторыя

Перевод с польского.

ПАРИЖ 28|I-40 года.

Вельможный пан Иван Григорьевич БЕЛЫЙ

В Суклине.

Имея сведения, что Вы являетесь председателем местного комитета, который управляет имением Мнюта, информирую Вас, что я слава богу жив и здоров, чего и Вам, а также и соседям Суклина желаю.

Нахожусь во Франции с ноября месяца 1939 года, устроился хорошо и работаю в очень большом предприятии, в котором работают вместе со мной несколько сот тысяч поляков. Дела мои

**Ліст графа Уладзіслава Берастоўскага, які адрасаваны савецкім уладам у Плісе. Ліст да Плісы не дайшоў, а лёг на стол кіраўніцтва БССР. Яго пераклалі з польскай мовы на рускую і ён захоўваўся ў тагачасных дакументах ЦК КПБ.**

### Даведка:

«У Рэгістры Гандлёвага Аддзелу А, Акруговага Суда ў Вільні ад 5 студзеня 1926 года пад №2910 запісана:

**R.H.A. Nr 2910 Фірма "Млын Панама", Уладыслаў Бжастоўскі. Сядзіба ў маёнтку Мнюта, гміна Пліса, Дзісенскі павет. Прадмет – млын водны. Фірма існуе ад 1912 года. Уладальнік Уладыслаў Бжастоўскі, які пражывае ў маёнтку Мнюта.**

*Аддзел Гандлёвых рэгістраў Акруговага Суда ў Вільні*".

З гэтага вынікае, што пасля ўсталявання ў нашым краі польскай улады, Уладзіслаў Берастоўскі (Brzostowski) у судовым парадку даказваў свае права на спадчыннасць. Інакш млын, верагодна, дастаўся б дзяржаве. Праўдападобна, Уладыслаў збіраў дакументы, каб прадставіць іх у суд. Суд замацаваў ягоную спадчыннасць.

# дам параду




**Мнюта і ваколіцы, 1930-я гг. На месцы маёнтка Мнюта [п(анскі) дв(вор) Мнюта], якім валодалі Берастоўскія – сёння вёска Мнюта-1, фальварак Мнюта, якім валодалі Пяркоўскія – у складзе новаўтворанай пасля вайны вёскі Мнюта-2, гэтак як і фальварак Шалкова, якім валодалі Усовічы (Усовічы жывуць там і сёння). На месцы Панамы – Шэпелева. Ад вёскі Тушына засталіся толькі падмуркі, яе жыхары ссяліліся ў Шэпелева. Лічба побач назовам паселішча – колькасць двароў.**

ужо вычарпаная. Няма ўжо Казіміра Казлоўскага. Адышлі ў лепшы свет і іншыя старажылы, якія памяталі добрага графа Уладзіслава Берастоўскага. Ёсць, праўда, і сёння сведкі, якія жылі ў часы графа Берастоўскага, але яны тады былі малымі дзецьмі і што могуць сказаць пра графа, дык толькі тое, што чулі ад сваіх бацькоў і дзядоў. Аднак гісторыя, нечакана, займела працяг...

1 верасня 1939 года пачалася Другая сусветная вайна. У другой палове верасня 38-гадовы граф у складзе Войска Польскага праз Румынію эвакуяваўся ў Францыю. Недалёка ад польска-румынскай мяжы ён даведаўся, што Чырвоная Армія ўвайшла ў Заходнюю Беларусь і яе прыядналі да БССР.



**Млын Панама на карціне работы Эдуарда Мацюшонка.**

Знаходзячыся ў сталіцы Францыі, граф Уладзіслаў Берастоўскі вырашае напісаць ліст прадстаўнікам мясцовай савецкай улады ў Плісе. Ён нават і не здагадваўся, што карэспандэнцыя з Парыжа ляжа на стол кіраўніцтва БССР.

Ліст Берастоўскага, які быў адпраўлены ў БССР, апісваў міжнародную сітуацыю. Граф адзначаў, што, па яго меркаванні, вайна ў Еўропе будзе працягвацца 1,5–2 гады. Пры гэтым заходнія саюзнікі рыхтуюцца адпомсціць нацысцкай Германіі за Польшчу. ***“Прыгатаванні да перамогі над Германіяй гіганцкія. Хаўруснікі рыхтуюць да 1941 года дзясяткі тысяч самалётаў і танкаў. Усё рыхтуецца спакойна і метадычна”, — пісаў граф Берастоўскі.***

Але галоўная частка паслання была прысвечаная маёнтку Мнюта, а менавіта становішчу ў ім. З’язджаючы з родных мясцін, Берастоўскі пакідаў гаспадарку ва ўзорным стане. Аднак інфармацыя пра бальшавіцкія пераўтварэнні ў Заходняй Беларусі праз французскія і брытанскія газеты і радыё даходзіла да графа. Але ён нават не дапускаў думкі, што яго маёнтак можа быць разрабаваны.

***“Пішу да вас, як да прадстаўніка мясцовай улады і чалавека інтэлігентнага, які здольны глядзець у будучыню. Справа ў тым, каб не прапала мая праца, якую я праводзіў на працягу 20 гадоў, насаджаючы эканамічную культуру ў маёнтку Мнюта і яго ваколіцах, каб не згінуў сад у Мнюце”***, — пісаў граф у сваім лісце. Ён папярэджваў, каб сад бераглі ад жывёл і не пасвілі быдла і коней ў ім.

Берастоўскі прапануе арганізаваць у Мнюце ўзорны калгас з сельскагаспадарчай школай. ***“Гэта будзе ў адпаведнасці з лініяй вашай улады ў цяперашні час”***, — пазначаў былы мнюцкі пан.

Асабліва Берастоўскі турбаваўся наконт багатай сельскагаспадарчай бібліятэкі, якая захоўвалася ў панскім доме. ***“Там ёсць вельмі рэдкія і каштоўныя сельскагаспадарчыя кнігі, некаторыя з іх сёння не купіць нават за вельмі вялікія грошы. Асабліва літаратура па торфе і лугах”***, — адзначаў Берастоўскі.

Турбавала польскага эмігранта ў Парыжы і тое, што шмат яго ўласных рэчаў, і перш за ўсё бухгалтарская дакументацыя, звязаная з гаспадаркай у Мнюце, засталася без нагляду. А ўсе гэтыя паперкі для сапраўднага гаспадара былі на вагу золата. ***“Прашу ўсе важныя дакументы, лісты і квітанцыі як з майго пісьмовага стала, так і з шафы скласці ў асобную скрыню і захаваць”***, — пісаў граф.



**Перабудаваны млын Панама. Сучасны стан.** *Фота Ул. Скрабатуна, 02.10.2006 г.*

Граф турбаваўся і пра млын: ***“Калі ласка, глядзіце, каб млын не працаваў без мазі. Ведаю, што з ёй у вас цяжка. Калі ласка, пагутарыце з Восіпам Мацюковым наконт таго, ці магчыма мазь замяніць шкіпідарам, які можна знайсці ў Люшыцы, ці Бабруйшчыне. Прашу вас працаваць так, каб не знішчыць таго ўзроўня сельскагаспадарчай і прамысловай культуры, якога мне ўдалося дасягнуць”.***

Акрамя гэтага Берастоўскі прасіў захаваць некалькі снапоў селекцыйнага льняного семя, прывезенага спецыяльна з Галандыі. Гэтыя збожжавыя каштоўнасці перад сваім ад’ездам граф паклаў у гаражы.

Незадоўга да вайны Берастоўскаму ўдалося набыць дынама-машыну, з дапамогай якой ён спадзяваўся правесці электрычнасць у вёскі Сукліна, Азёркі, Вялец, Ханякова, Жаўнерчыкі, Забалоцце, Вусава, Лозіна, Дубашынкі, Якубенкі, Пратасы, Аляксандрава і Тушына. Дадзеная машына магла даць ток на 3 тысячы 25-вальтовых лямпачак. ***“Не аддавайце яе, бо гэта ваша дабро. Такую машыну зараз зрабіць вельмі цяжка”***, — пісаў граф.

Хвалявала Берастоўскага і сітуацыя з жывёлагадоўляй. Ён прасіў “упаўнаважаных таварышаў”, каб тыя не аддавалі племянную жывёлу, бо яна з’яўляецца матэрыялам, які мог бы дапамагчы павысіць узровень прадукцыі малака ў мясцовасці.

Не забыўся граф і на ахову новага маста, які быў збудаваны незадоўга да пачатку вайны: ***“Трэба сабраць ля пляціны 50–60 кубаметраў вялікіх камянёў, бо ў іншым выпадку мост падмые. Я хацеў гэта зрабіць у 1940-м годзе, але вайна не дазволіла”.***

***“Не дазваляйце знішчыць малочны завод. Калі трэба, каб вы мелі права голасу, магу даслаць Вам даверанасць з Парыжу, завераную ў савецкім консульстве. Малочны завод з’яўляецца эканамічным рычагом мясцовасці. Калі чаго не будзеце ведаць, напішыце мне ў Парыж, дам параду”***, — турбуецца граф.

Напрыканцы ліста Берастоўскі падкрэсліваў, што ён мае намер вярнуцца ў Заходнюю Беларусь, у свой маёнтак, у … снежні 1941 года: ***“У сувязі з тым, што вайна зацягнулася, змагу вярнуцца ў нашу краіну праз год, паўтара”.*** Напісаўшы ў лісце свой парыжскі адрас, граф папрасіў беларускіх сялян, каб тыя дасылалі яму лісты авіяпоштай, бо так напэўна дойдзе...

У той час, калі Уладзіслаў Берастоўскі пісаў свой ліст, яго маёмасць ужо была разрабаваная, а тое, што засталося, аддадзена ў калгас. Аднак кіраўніцтва БССР увагу на ліст з Парыжу ўсё ж звярнула, а інакш, як можна патлумачыць тое, што яго пераклад захоўваецца ў тагачасных партыйных дакументах ЦК КПБ. Праўда, асаблівых высноў зроблена не было. Зямля засталася без пана.

Падчас вайны славуты млын Берастоўскага быў спалены партызанамі. У канцы 1940-х гадоў калгас яго адбудаваў, аднак даваенная дабрабыту гаспадарка ў Мнюце так і не дасягнула. Граф Уладзіслаў Берастоўскі памёр у 1983 годзе. На радзіму ў Мнюту ён так і не вярнуўся.

***“Малочны завод з’яўляецца эканамічным рычагом мясцовасці”***– пісаў граф. Іронія лёсу! Тэрыторыя колішняга маёнтка Мнюта графа Уладзіслава Берастоўскага цяпер належыць Глыбоцкаму малочнакансерваваму камбінату. Вось такія гістарычныя метамарфозы! Глыбоцкі МКК і ёсць сёння “эканамічным рычагом” мясцовасці (рэгіёна). Прарочыя словы графа!

А ці захоча Глыбоцкі МКК аднавіць для сваіх патрэбаў гідраэлектрастацыю графа Уладзіслава Берастоўскага?

это было всегда -как приятель и хороший сосед. Запомните себе хорошо, что возвращусь именно в декабре месяце 1941 года.

К Петру Белому, Леону Кондратенку, Николаю Махальскому, Александру Мерашу, Карпу Суклина, также Мацулевичу, Матюшенку, Ситковичу Апитенку, Пузыровскому напишу, работайте вместе и не мешайте один другому, в согласии и общими силами в работе.

Мой адрес: Франция, Париж, Хуж Отель Беллеву. Если будит писать, то пишите воздушной почтой, хоть немного дороже стоит, но зато надежно, потому что все письма не доходят.

**Заканчэнне ліста графа Берастоўскага.**

**Сярод прыведзеных графам прозвішчаў у лісце – шмат тых, якія і сёння сустракаюцца ў гэтай мясцовасці. Пад прозвішчам Мацюшонак, граф, праўдападобна, мае на ўвазе Вінцэнта Аляксандравіча Мацюшонка – дзеда вядомага на Глыбоччыне і Вілейшчыне мастака Эдуарда Мацюшонка. Бацькі Эдуарда і сёння жывуць у Мнюце за сотню крокаў ад задарожскага касцёла. Дзед мастака працаваў у графа майстрам па мэблі, і іншых людзей тут з гэтым прозвішчам на тым часе не было.**



**Старыя паркавыя прысады ў колішнім маёнтку Мнюта.** *Фота Ул. Скрабатуна, 02.10.2006 г.*

# Сярод пераможцаў ёсць і нашы землякі

Зміцер Лупач

**На абласным этапе конкурса польскай паэзіі, які праходзіў у канцы кастрычніка ў Браславе, сярод пераможцаў былі і прадстаўнікі Глыбоччыны. Гэта Святлана Тарасёнак, Эвеліна Катовіч і Елізавета Малей.**

Кожны з удзельнікаў прачытаў па два вершы польскіх паэтаў. Рэспубліканскі этап праходзіў 10 лістапада ў Гродне. Ён адбываўся напярэдадні Дня незалежнасці Польшчы, які адзначаецца 11 лістапада. На імпрэзе прысутнічалі прадстаўнікі консульства Рэспублікі Польшча ў Беларусі і грамадскай арганізацыі "Польска Мацеж Школьна". Віцебскую вобласць годна прадставілі Вікторыя Верпечынскіс з браслаўскай гімназіі, Юлія Гірон з Друі, Яна Піртань з Браслаўскай СШ№2, Анжаліка Смулько з Друі, якая, дарэчы, заняла трэцяе месца.

Арганізатары мерапрыемства выказалі вялікую ўдзячнасць дзецям, бацькам і настаўнікам за добрую падрыхтоўку да гэтага конкурса.

Таксама да Дня незалежнасці Польшчы быў праведзены конкурс дзіцячых малюнкаў "Мая Айчына". Сярод пераможцаў конкурса Юля Белюн і Вікторыя Скур'ят з Браслаўшчыны, Маша Кіжла і Павал Кіжла з Глыбоччыны.

### Такія ж грошы плацяць кіроўцы ў Расіі, каб «абараніць» аўтамабілі мясцовай вытворчасці

У Беларусі павінен быць уведзены ўтылізацыйны збор. Такое меркаванне выказаў генеральны дырэктар холдынгу «БелГАЗаўтасэрвіс» Міхаіл Супруновіч.

«Гэта не толькі абарона рынкаў, але і рашэнне экалагічнай праблемы», – лічыць ён.

Паводле меркавання Супруновіча, велічыня збору павінна быць раўназначнай той, якая дзейнічае ў Расіі. Для легкавікоў гэта каля $600, для грузавікоў і аўтобусаў – каля $4500.

«Будзе ўводзіцца ўтылізацыйны збор – на гэтую суму будзе ўзрастаць і цана аўтамабіля. Нікуды не дзенешся», – канстатаваў кіраўнік холдынгу.

# Лабісты прапануюць увесці ў Беларусі «ўтылізацыйны збор» – дадатковыя $600 за імпартаванае аўто

Ідэю ўвядзення ўтылізацыйнага збору ў Расіі пралабіравалі расійскія вытворцы. Нібыта клапоцячыся пра экалогію, яны перадусім адсвойваюць свае інтарэсы ў барацьбе з еўрапейскімі, азіяцкімі і амерыканскімі вытворцамі. Замежныя аўто даражэюць, значыцца, «лады» з «газэлямі» выглядаюць больш прывабна.

Увядзенне ўтылізацыйнага збору ў Беларусі прывядзе да прапарцыйнага падаражання на ўсіх сегментах аўтарынку.

***пп.by***

## Новы спосаб кінуць курыць прапануюць ва Ушачах




**Арыгінальны спосаб барацьбы з курэннем прыдумалі ў адной з арганізацый Ушацкага раёна. Невядома, каму прыйшло ў галаву складаваць тут такую спецыфічную прадукцыю, але, напэўна, мясцовыя аматары тытуню з таго часу наўрад ці атрымліваюць задавальненне ад улюбёнага працэсу...**

*Крыніца: «Патрыёт».*

# Колькасць стратных сельгасарганізацый у Беларусі ў студзені-верасні ўзрасла больш як у 4 разы

**Колькасць стратных сельгасарганізацый у Беларусі ў студзені-верасні бягучага года ў параўнанні з аналагічным перыядам 2012 года павялічылася ў 4,1 раза і склала 3 працэнты ад агульнай колькасці арганізацый. Такія даныя змешчаны ў дакладзе Нацыянальнага статыстычнага камітэта, паведамляе БЕЛТА.**

Калі ў 2012 годзе ў названы перыяд такіх арганізацый налічвалася 11 (0,7 працэнта ад агульнай колькасці арганізацый), то ў гэтым годзе – 45 (3 працэнты). Чыстая страта гэтых арганізацый узрасла ў 7,1 раза і склала Br431,3 млрд. супраць Br61,1 млрд. у студзені-верасні 2012 года.

Чысты прыбытак сельскагаспадарчых арганізацый Беларусі за дзевяць месяцаў бягучага года склаў 64,5 працэнта да ўзроўню аналагічнага перыяду 2012-га і перавысіў Br4,6 трлн.

Ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг атрымана больш як Br51 трлн., што перасягае ўзровень дзевяці месяцаў 2012 года на 13,8 працэнта. Рэнтабельнасць рэалізаванай прадукцыі, тавараў, работ і паслуг склала 8,3 працэнта супраць 19,2 працэнта ў справаздачны перыяд 2012 года, рэнтабельнасць продажаў знізілася з 14,5 працэнта да 6,9 працэнта.

На долю арганізацый сельскай гаспадаркі на 1 кастрычніка 2013 года прыпадала 26,6 працэнта ўсёй пратэрмінаванай крэдыторскай запазычанасці ў рэспубліцы. Пратэрмінаваная крэдыторская запазычанасць перавысіла пратэрмінаваную дэбіторскую ў 6,3 раза.

*БЕЛТА.*

## У Беларусі прайшло 1,5 тыс. асенніх кірмашоў па продажы мясной, малочнай, рыбнай, сельскагаспадарчай прадукцыі

**У Беларусі прайшло больш як 1,5 тыс. кірмашоў-базараў па продажы мясной, малочнай, рыбнай, сельскагаспадарчай прадукцыі. Аб гэтым паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Міністэрстве гандлю Беларусі.**

Гандлёвыя мерапрыемствы праходзілі ў гарадах, раённых і абласных цэнтрах краіны, удзел у іх прынялі больш як 18,9 тыс. прадаўцоў, у тым ліку - 8,1 тыс. фізічных асоб.

На кірмашах-базарах было рэалізавана 27,7 тыс.т плодаагародніннай прадукцыі, у тым ліку 14,7 тыс.т бульбы, 1,9 тыс.т буракоў, 2,2 тыс.т морквы, 3,4 тыс.т капусты, 2,6 тыс.т цыбулі, 1,6 тыс.т яблыкаў. Таксама прададзена 715 т мясной, 124,1 т малочнай, 498 т рыбнай прадукцыі. Агульны тавараабарот кірмашоў склаў больш як Br180 млрд.

«Кірмашы-базары былі праведзены ў мэтах найбольш поўнага забеспячэння насельніцтва сельскагаспадарчай прадукцыяй, мерапрыемствы прайшлі ў адпаведнасці з зацверджанымі графікамі», - адзначылі ў Міністэрстве гандлю.

*БЕЛТА*

# Не спальвай сваё жыццё!

**Прычынай больш 1000 пажараў у Рэспубліцы Беларусь стала неасцярожнае абыходжанне з агнём, пры курэнні – загінуў 351 чалавек.**

Дадзеныя статыстыкі за 10 месяцаў бягучага года сумневаў у тым, што праблема існуе, не пакідаюць. Большасць падобных НЗ - вынік бяспечнасці чалавека. Ведаюць пра гэта ўсе, але факт застаецца фактам. І толькі калі залішняя самаўпэўненасць і халатнасць абгортваюцца прыездам выратавальнікаў – становіцца зразумела, што ўсё-такі пагроза была рэальнай, ды і бясконцыя перасцярогі з боку МНС ужо не здаюцца такімі назойлівымі. Хоць, недастаткова парой і гэтага – з першага разу разумеюць далёка не ўсе. Некаторых заўзятых курцоў выратавальнікі ратавалі неаднаразова.

«Выпілі, закурылі, заснулі, загарэлся» – паслядоўнасць, бясспрэчна, банальная, аднак дзейнічае дагэтуль напэўна. Вінаватым пажараў часцей гінуць не ад самага агню, а ў выніку атручвання прадуктамі гарэння. У стане алкагольнага ап'янення людзі не здольныя адэкватна ўспрымаць рэчаіснасць і, як следства, пазбаўлены інстынкту самазахавання. Так і засынаюць з непатушанай цыгарэтай, ад якой спачатку загараецца пасцельныя прыналежнасці, а затым і іншая маёмасць.

Як раз 24.11.2013 года па такой схеме развіваліся падзеі ў адной з кватэр г.п. Падсвілле Глыбоцкага раёна. Работнікаў МНС выклікалі суседзі – дым вырываўся з адкрытага акна кватэры. У кухні кватэры выратавальнікі выявілі 29-гадовага хлопца – гэта быў госць гаспадара, самога ж гаспадара суседзі ўжо вывелі на вуліцу. Спачатку абодва распівалі спіртныя напоі, пасля чаго ляглі спаць: гаспадар у адным пакоі, а госць – у іншым. Праз некаторы час госць прачнуўся, вырашыў пакурыць і заснуў. У выніку неасцярожнага абыходжання з агнём пры курэнні адбылося ўзгаранне пасцельных прыналежнасцяў ложка. За парушэнне правіл пажарнай бяспекі вінаватая асоба прыцягнутая да адміністрацыйнай адказнасці па частцы 1 артыкулы 23.56 Ко АП. Рэспублікі Беларусь.

Як паказвае практыка, грэбаванне элементарнымі правіламі бяспекі – рызыка не толькі для саміх парушальнікаў, але і для іх блізкіх – выпадкі, калі разам з вінаватымі пажараў гіне ўся сям'я, не адзінкавыя.

***Інспекцыя ІДПН Глыбоцкага РАНС***



Возера Падлазнае – папулярнае ў спінінгістаў.

# Чарговае падаражэнне цыгарэт да 13% адбудзецца з 1 снежня

**З 1 снежня курцам прыйдзецца плаціць за сваю згубную звычку на 2-13% больш. Беларускія вытворцы і імпарцёры цыгарэт абвясцілі пра чарговае падаражэнне тытунёвых вырабаў. Новыя кошты з'явіліся на сайце Міністэрства па падатках і зборах.**

Пачак **Viceroy** падаражэе на 200 рублёў – да 8600 рублёў. Гэтулькі ж дададуць у кошце і цыгарэты марак **Monte Carlo, Pall Mall, Pall Mall Nanokings, Pall Mall Superslims.** Са снежня яны будуць каштаваць 8700 рублёў.

**Pall Mall Azure** і серыя **Pall Mall Premium** падаражэюць на 300 рублёў – да 8900.

**West** стане даражэй на 500 рублёў і будзе каштаваць 11000 рублёў.

Самае вялікае падвышэнне кошту – на 13% ці 1700 рублёў – чакае беларускія цыгарэты **Camel Filters, Camel Orange, Camel Blue, Camel Silver.** Такім чынам, яны зраўнуюцца ў кошце з імпартнымі аналагамі і будуць прадавацца па 13,5 тысячы за пачак. **Camel Black і Camel White** падаражэе на тысячу рублёў – да 13700 рублёў. Кошт **Camel Icon** у снежні ўсталявана на ўзроўні 13 тысяч за пачак.

Некалькі марак беларускіх цыгарэт падаражэюць адразу на тысячу рублёў: **Glamour** – да 12 тысяч; **Winston** – 12,5 тысячы рублёў; **Winston XSence, Winston XStyle** – да 13 тысяч, **Lucky Strike і Winston Super Slims** – да 13,5 тысячы; **Kent HD, Mild Seven і Mevius** – да 14 тысяч; **Kent Nanotek 2.0** – да 14,5 тысячы; **Vogue** – да 16 тысяч рублёў.

Са снежня падаражэюць і імпартныя цыгарэты. **Dunhill** будзе каштаваць 17 тысяч. Пачак **Lucky Strike Click&Roll** будзе прадавацца на тысячу даражэй, чым сёння – за 13500 рублёў. Адразу на паўтары тысячы да 14000 вырасце ў кошце **Kent HDs.** **Пачак Kent Convertibles, KENT iSWITCH і Kent HDi** будзе каштаваць 15 тысяч.

